**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№35(699) 29 жніўня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





Подых восені, першая прыкмета – уборка бульбы. Вёска Хралы.
*Фота Ул. Скрабатуна.*

Браслаўскі раён

# Прырэзаць апошніх

■ Чэслаў Якубовіч

**Штогадовыя духоўныя двухдзённыя ўрачыстасці ў Браславе ў гонар цудадзейнага абраза Маці Божай Валадаркі Азёраў і сёлета былі вельмі маштабнымі і ўзнёслымі, а пачаліся з традыцыйнай сустрэчы каталіцкай моладзі Віцебскай дыяцэзіі.**

У азёрны край прыехала вельмі шмат пілігрымаў на чале з апостальскім нунцыем Ватыкана ў Беларусі арцыбіскупам К. Гуджэроцці, а галоўную святую імшу адслужыў кардынал з Берліна Райнер. Вось толькі настрой напрыканцы лета ў многіх мясцовых жыхароў быў даволі прыгнечаным. Мясцовы раённы штаб па вырашэнні пытанняў аховы тэрыторыі Браслаўскага раёна ад заносу і распаўсюджвання асабліва небяспечных хвароб жывёлін аб'явіў раён пагражаемай бупернай зонай па афрыканскай чуме свіней. У адпаведнасці з дзеючымі правіламі людзей абавязалі закалоць усіх свіней на панадворках у тэрмін да 15 жніўня для асабістых патрэб. Да таго часу свінак яшчэ можна было здаць мясам на мясакамбінат альбо на забойную пляцоўку мясцовага райпо. Сітуацыя з чумой свіней стала сур'ёзная, бо трупы двух хворых ёй дзікіх кабаноў знайшлі быццам ужо і на тэрыторыі Мядзельскага раёна ля граніцы з Гродзенскай вобласцю, дзе і была першая ў Беларусі ўспышка АЧС. Пасля гэтага і ў азёрным краі пачаўся паўторны падворны абход панадворкаў грамадзян з выдачай прадпісанняў аб выразанні ўсіх свіней да 20 жніўня. Калі людзі адмовяцца гэта зрабіць, то ім могуць выпісаць значныя штрафы, а іх свіней забраць прымусова з выплатай устаноўленых кампенсацый. Вось толькі афіцыйнай інфармацыі па АЧС было мала і жыхары раёна з цяжкасцю ўспрымалі, чаму на некаторы час жыццёва неабходна перастаць ім займацца дома свінагадоўляй.

Пастаўскі раён

# Дынастыя хлебаробаў

■ Кастусь Александровіч

**Зараз многія скардзяцца, што моладзь не толькі ў горадзе, але і на вёсцы ляніцца працаваць, хоць і жадае адразу мець матэрыяльныя даброты.** Аднак у канчатковым выпадку ўсё залежыць ад выхавання ў сям'і, ад таго, якія чалавечыя якасці сфарміруюцца ў маленстве. На сёлетнім жніве ў Пастаўскім раёне нечакана для ўсіх у лідары выйшаў малады механізатар сельгаспрадпрыемства "Камайскі-Агра" Вадзім Дуброўскі. Ён за няпоўных два тыдні працы на палетках стаў першым камбайнерам у раёне, хто на сваім КЗС-1218 намалаціў больш тысячы тон збожжа. Па традыцыі кіраўніцтва раёна спецыяльна прыехала ў поле, каб павіншаваць хлопца з важкай працоўнай перамогай. Яна тым больш важкая, што Вадзім сёлета апярэдзіў больш ста спрактыкаваных камбайнераў, уключаючы свайго бацьку Дзмітрыя Альфонсавіча, які летась быў камбайнерам-тысячнікам і ў гэтым годзе ўвайшоў у дзясятку лепшых на Пастаўшчыне. У мясцовай гаспадарцы задаволены і стараннай працай яго малодшага брата. А калісьці ў гэтай сям'і грымела слава на жніве і іх дзеда і бацькі Альфонса, якому было прыемна бачыць здымкі блізкіх людзей-перадавікоў у мясцовых газетах. Дарэчы, на мінулагоднім жніве ў раёне былі ўшанаваны нават 54 лепшыя вадзіцелі і камбайнеры-тысячнікі. Сёлета з-за анамальна доўгай зімы намалоты істотна меншыя паўсюдна і ўраджайнасць упала, але даволі шмат маладых хлебаробаў плённа папрацавалі ў рэгіёне на ўборцы вырашчанага ўраджаю і шэрагу іншых гаспадарак раёна.

Глыбоцкі раён

# Дарога да святыні

■ Станіслаў Раманчук

**Ва ўсіх сферах дзейнасці заўсёды толькі яркія неардынарныя асобы прадвызначалі поспех і дасягненні.**

Вось і ў Глыбоцкім раёне праз 3 гады пасля зыходу з жыцця ў лепшы свет вядомага ксяндза-прэлата Ёзаса Булькі гэта ісціна стала яшчэ больш відавочнай. Па-ранейшаму тут стараюцца захаваць усю прыгажосць вакол храма св. Ганны, але прыкметна меней стала наведвальнікаў, турыстаў і паломнікаў. Раней не было падзелу на касцельную і музейную тэрыторыю. Аднак нібыта прадчуваючы будучыя змены, святар перад смерцю папрасіў, каб 16 гектараў тэрыторыі створанага ім прыгожага дэндрапарку перадалі на баланс аддзела культуры. Пакрыху паміраюць і старэйшыя прыхаджане, якія яго даглядалі, сёлета закрыюць мясцовую школу. Цяпер на тэрыторыю парка ўвайсці можна толькі за грошы, заплаціўшы 4 тысячы рублёў. Але гасцей у Мосары менее і за паўгода зарабілі толькі 12,5 млн. рублёў. Расходы на ўтрыманне філіяла раённага гісторыка-этнаграфічнага музея ж значна большыя і многае тут трэба тэрмінова рамантаваць ад капліц да мосцікаў, ачышчаць вадаёмы. Праўда, у раёне вырашылі, што адраджаць ранейшую прыгажосць і непаўторную аўру Мосара будуць талакой да яго 500-гадовага юбілею ў наступным годзе. Распрацаваны спецыяльны план, які прадугледжвае і аднаўленне вальераў мясцовага міні-заапарка, які цяпер апусцеў без гаспадара. Дарэчы, да працы ў мясцовым касцёле прыступіў нядаўна новы святар, ксёндз Марат. Ён поўны рашучасці аднавіць і стварыць у вёсцы і духоўны хрысціянскі музей памяці Ё. Булькі, бо яго асобу людзі будуць памятаць доўга, як многае зробленае пры жыцці лаўрэатам нацыянальнай прэміі "За духоўнае адраджэнне".

# Аб самым надзённым

## РАЗВАЛ БЕЛАРУСКАЙ КАЛІЙНАЙ КАМПАНІІ ЯШЧЭ БОЛЕЙ УСКЛАДНІЦЬ НЯПРОСТУЮ СІТУАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІЦЫ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Пакуль ясна адно, што радуюцца толькі пакупнікі хлорыстага калію ў свеце, бо болей стала яго пастаўшчыкоў. Эксперты нават прагназуюць, што сусветныя цэны могуць знізіцца яшчэ на 25-30 %.**

Сёлетні год для айчынных упраўленцаў – сапраўды валідольны, бо з кожным тыднем толькі дабаўляецца розных сур'ёзных праблем. У глыбінцы афрыканская чума свіней накрывае ўсё болей раёнаў краіны. Даўняе наша зло – няспынная інфляцыя ў сярэдзіне лета зноў пачала разганяцца, у ліпені цэны ўзраслі яшчэ на 1 % з-за падаражэння электраэнергіі, камунальных тарыфаў. За 7 месяцаў з пачатку года сёлета гадавая інфляцыя набрала ўжо аб'ём 8 % і, зразумела, што цяпер будзе складана ўпісацца ў вызначаны ўрадам аб'ём індэкс спажывецкіх цэн за 2013 год пад 10-12 % працэнтаў.

Таксама ўжо і вядучыя асобы міністэрстваў, канцэрнаў і сам прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч не хаваюць груз цяперашніх праблем. Кіраўнік урада прама назваў, што ўсе вобласці краіны разам са сталіцай у першым паўгоддзі недабралі ВУП на 20 трыльёнаў рублёў. У краіне другі год назіраецца спад прамысловай вытворчасці (гэта тлумачаць рэцэсіяй у асноўных беларускіх гандлёвых партнёраў і сусветнай эканомікі ў цэлым). У выніку на складах шмат ляжыць непрададзеных беларускіх тавараў, пачалі зніжацца паступленні ў бюджэт і адпаведна золатавалютныя рэзервы.

На апошні фактар негатыўна паўплывала тое, што сёлета, па дадзеных Нацстата, у студзені-маі на 2 млрд. долараў знізілася выручка Беларусі ад экспарту нафтапрадуктаў. Яшчэ летась Расія прымусіла спыніць сумніўныя схемы з продажай хімрастваральнікаў і да таго ж упалі экспартныя цэны на 10,5 % і меней наша краіна прадала прадукцыі двух заводаў НПЗ у Мазыры і Наваполацку. Не сакрэт, што яшчэ адной важнай галіной здабычы Беларусі замежнай валюты заставаліся калійныя ўгнаенні.

Аднак на нядаўняй прэсканферэнцыі ў сталіцы намеснік міністра эканомікі Беларусі Аляксандр Ярашэнка прызнаў, што і тут ўпалі сусветныя цэны і па факце па калію зарабілі на 200 млн. долараў меней, чым летась. Ды і наш экспарт (асноўны рынак тут расійскі) сёлета знізіўся на чвэрць, бо і ў самой Расіі замарудзіўся рост эканомікі, аслабела да 32-33 рублёў расійская валюта ў адносінах да долара. Цікава, што і 2 апошнія гады працягваўся канфлікт партнёраў у адным з буйнейшых у свеце альянсаў у Беларускай калійнай кампаніі, якая была створана ў 2005 годзе.

Быццам і дзейнічалі разам , але "Уралкалій" праз сумесную сетку продажу прадукцыі прадаваў толькі пятую частку калія, партнёры так і не змаглі дамовіцца аб сваёй адзінай экспартнай палітыцы. І вось сёлета кампанія расійскага алігарха і ўладальніка нават футбольнага клуба "Анжы" з Махачкалы Сулеймана Керымава аб'явіла аб поўным спыненні паставак угнаенняў праз БКК (дагэтуль кантралявала 43 % сусветнага рынку). Толькі бліжэйшы час пакажа, наколькі яшчэ болей абваліцца сусветны рынак цэн на калій.

Пакуль ясна адно, што радуюцца толькі пакупнікі хлорыстага калію ў свеце, бо болей стала яго пастаўшчыкоў. Эксперты нават прагназуюць, што сусветныя цэны могуць знізіцца яшчэ на 25-30 %. Верагодна, яшчэ адзін наш важнейшы валютны паток зменшыцца і для "Беларуськалія" таксама настане пара жыць па сродках, менеей інвеставаць у сваё тэхпераўзбраенне. Што і казаць, паўстае зараз болей складаных пытанняў аб далейшых перспектывах айчыннай прамысловасці і эканомікі ў цэлым, чым адказаў на іх. Неяк менеей сталі гаварыць аб рэалізацыі комплекснай праграмы мадэрнізацыі беларускай вытворчасці. Можа і тут сітуацыя такая, што і хваліцца няма асабліва чым.

Узяць бы да прыкладу нашу лёгкую прамысловасць, становішча якой з'яўляецца цяжкім і трывожным. Гэта ж вам не жартачкі, калі летам складскія запасы на прадпрыемствах канцэрна "Беллегпрам" дасягнулі ўжо 226 % сярэднемесячнага аб'ёму вытворчасці. У гэтай галіне, напрыклад, нават 19 швейных і дывановых, панчошна-трыкатажных фабрык з'яўляюцца стратнымі і пасутнасці поўнымі банкротамі. Ужо няма дзе захоўваць непрададзеную прадукцыю на 43 са 109 розных прадпрыемстваў гэтага канцэрна, у тым ліку на віцебскіх КІМе і мехавым камбінаце.

Што рабіць, калі беларускае адзенне дарагое, яно слаба прадаецца. Адна надзея, што да зімы непрадзеныя заляжалыя тавары зімовага асартыменту знойдуць пакупніка, калі іх пачнуць прадваць са зніжкамі. Вось так мы і жывём з надзеяй, што сітуацыя неяк сама сабой разруліцца, да новага года ўдасца разгрузіць склады. Нам застаецца толькі спадзявацца, што не будзе хоць і плаўнай дэвальвацыі нацвалюты, а вось настаўнікам з новага навучальнага года павысілі заробкі на 25 % і аднчасова педнагрузкі з 18 да 20 гадзін у тыдзень. На чарзе і новы ацяпляльны сезон, і іншыя розныя, магчыма, нечаканыя падзеі.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 29.08.13 | | | | Пятніца 30.08.13 | | | | Субота 31.08.13 | | | | Нядзеля 01.09.13 | | | | Пнд.02.09.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +10 | +12 | +18 | +14 | +10 | +14 | +19 | +14 | +11 | +14 | +18 | +14 | +11 | +14 | +19 | +15 | +13 | +12 | +16 |
| Ціск | 749 | 749 | 749 | 749 | 749 | 748 | 748 | 747 | 747 | 746 | 746 | 745 | 744 | 743 | 742 | 742 | 742 | 744 | 744 |
| Вільготнасць | 100 | 97 | 63 | 91 | 99 | 88 | 62 | 91 | 99 | 91 | 63 | 92 | 100 | 89 | 64 | 91 | 96 | 83 | 58 |
| Вецер м/сек | 1 | 3 | 3 | 1 | 3 | 2 | 3 | 0 | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 | 3 | 3 | 4 | 6 | 6 |
| | Пд-З | З | Пн-З | Пд-З | Пд-З | З | Пн-З | ШТЛ | З | З | Пн-З | Пн | З | Пд-З | З | З | Пн-З | З | З |

## Дзень за днём

**Беларусы ў ліпені купілі замежнай валюты 1,3 млрд. долараў, зноў у 2 разы болей, чым прадалі банкам. Услед за "Беларусбанкам" яшчэ шэраг вядучых банкаў спынілі льготнае крэдытаванне будаўніцтва жылля. За паўгода замежныя інвестары ўклалі ў рэальны сектар айчыннай эканомікі 8 млрд. $ інвестыцый, пераважна ў гандаль, транспарт і прамысловасць Мінска. За апошнія 8 гадоў колькасць моладзі ў сельскай мясцовасці Беларусі скарацілася на трэць. У многіх дзяржаўных і прыватных ВНУ краіны адбыўся недабор студэнтаў, асабліва платнікаў. Нават у беларускай сталіцы трэць усіх узводзімых жылых дамоў – доўгабуды.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прэзідэнт Барак Абама абвінаваціў Расію ў вяртанні да менталітэту халоднай вайны і адмяніў сваю запланаваную ў верасні сустрэчу ў Маскве з лідарам Рф У. Пуціным.

**Туніс.** Услед за Егіптам па краіне пракаціліся масавыя акцыі пратэсту супраць праўлення ісламістаў партыі "Ан-Нахда" і ўведзеных ёй норм рашыята, абмежаванняў праў жанчын.

**В'етнам.** Парламент краіны прыняў новы закон, які забараніў людзям абменьвацца з верасня сваімі думкамі ў Інтэрнеце па пытаннях унутранай палітыкі дзяржавы.

**Расія.** Віцэ-прэм'ер РФ А. Дварковіч абвінаваціў Беларусь у дэмпінгу калійных угнаенняў і запатрабаваў спыніць продаж калію на расійскі рынак праз трэйдарскія кампаніі.

**Бахрэйн.** У Персідскім заліве ў водах краіны ля ўзбярэжжа Ірана ўтварылася нафтавая пляма дыяметрам 20 км, уцечка нафты адбылася з індыйскага суднатанкеравоза.

**Эстонія.** Адна з самых малых краін Еўропы з насельніцтвам 1,3 млн. чалавек стала самай тэхнічна развітай, у электронным рэжыме працуе урад, праводзяць выбары, жывуць людзі.

**Турцыя.** У тэставым рэжыме ў Стамбуле запрацаваў чыгуначны тунель пад Басфорам коштам 5 мільёнаў долараў даўжынёй 13,6 кіламетра, ён злучыў еўрапейскую і азіяцкую часткі мегаполіса.

**Данія.** Вядомая дацкая кампанія "LEGO" пачала выпуск канструктара з героямі папулярнага амерыканскага мультсерыяла "Сімпсаны", які быў на экранах 24 гады.

**Германія.** Міністр юстыцыі Сабіна Шнаррэнбергер заклікала атлетаў і палітыкаў свету байкатаваць Алімпіяду ў Сочы з-за прынятага ў РФ закона аб сэксмяншынствах.

**Саудаўская Аравія.** Буйную суму 100 мільёнаў долараў ахвяраваў кароль Абдалла бін Абдул Азіз на барацьбу з міжнародным тэрарызмам і стварэнне адпаведнага цэнтра пад эгідай ААН.

**Расія.** Упершыню за шмат гадоў 37 буйных расійскіх бізнесменаў адважыліся адкрыта падтрымаць апазіцыю і заключылі "сацыяльны кантракт" з юрыстам А. Навальным.

**ЗША.** Некалькі тысяч сем'яў прыйшлося эвакуіраваць са сваіх дамоў у Каліфорніі з-за моцных пажараў у спёку, агонь знішчыў дзясяткі асабнякоў, пацярпелі шэраг пажарных.

**Украіна.** Да штогадовага народнага свята сям'і ў вёсцы Малінаўка на Херсоншчыне адкрылі бронзавы помнік героям савецкай музычнай камедыі "Вяселле ў Малінаўцы".

**Егіпет.** Новы ўрад пачаў перавозіць каштоўнасці грабніцы Тутанхамона з музея ў Каіры ў новы Вялікі нацыянальны музей ля пірамід Гізы, які адкрыецца летам 2015 года.

**В'етнам.** У густых джунглях у адной з цэнтральных правінцый краіны знайшлі жывымі бацьку з сынам, яны заблудзіліся 40 гадоў назад падчас нарыхтоўкі дроў, але выжылі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** У канцэрне "Беллегпрам" пацвердзілі, што трэць швейных фабрык краіны стратныя, на складах ляжыць адзення на 2 трыльёна рублёў, амаль цэлы квартал дзейнасці.

**Дзяржынск.** Толькі ў жніўні выплацілі зарплату рабочым і спецыялістам мясцовага вопытнамеханічнага завода за працу ў красавіку, таму што на прадпрыемстве няма збыту яго маставых кранаў.

**Магілёў.** Кіраўніцтва вобласці абавязала жыхароў 7 раёнаў, пражываючых у зоне 20 км ад расійскай граніцы, зарэзаць усіх свіней на панадворках з-за ўспышкі чумы у суседзяў.

**Ганцавічы.** Пасля нявыплаты зарплаты за чэрвень ад адчаю работніцы прыватнай швейнай фірмы "Супермайк" (шые для РФ) правялі стыхійную забастоўку пратэсту.

**Уручча.** Межгарнізонны ваенны суд пакараў 3 гадамі турмы 20-гадовага салдата,"дзеда" з Добрушскага раёна, які да паўсмерці збіў 26-гадовага мінчаніна, маладога сяржанта.

**Мінск.** І ў Беларусі становіцца жыць неспакойна, бо ў сталіцы злачынца зарэзаў ва ўласнай кватэры члена Цэнтрвыбаркама, 54-гадовую юрыстку Святлану Хіневіч.

**Шклоў.** Суд пакараў 2 гадамі турмы кожнага з адтэрміноўкай прыгавору на 1 год былых дырэктара і галоўнага інжынера камбікормавага завода за фіктыўныя справаздачы.

**Мінск.** З-за замаруджвання тэмпаў росту эканомікі Міністэрства фінансаў Беларусі, як заявіў намміністра Максім Ермаловіч, скароціць бюджэтныя расходы на 1 млрд. долараў.

**Барысаў.** Скандальна вядомы алімпійскі чэмпіён Андрэй Арамнаў, каб пражыць, устроіўся ў адну з ВНУ сталіцы адказным за фізпадрыхтоўку, бо стыпендыю зменшылі да 1,5 мільёна.

**Бабруйск.** У аграгарадку Іванаўка сіротамі засталіся чацвёра малых дзяцей, калі днём узарваўся іх новы жылы дом, пад яго заваламі загінула гаспадыня, 35-гадовая маці.

**Мінск.** Родныя памерлага ў СІЗА 21-гадовага хлопца папрасілі Следчы камітэт праверыць і высветліць, адкуль на целе нябожчыка з'явіліся ў турме шматлікія пашкоджанні.

**Баранавічы.** Малады 21-гадовы беспрацоўны гараджанін лавіў рыбу з берага, хлопцу раптам у моцную спёку стала дрэнна, ён упаў у ваду і трагічна загінуў.

**Іванава.** Следчы камітэт распачаў крымінальную справу супраць 28-гадовай жыхаркі раёна, якая ад адчаю трымала на ланцугу сваю 61-гадовую маці-алкагалічку.

**Брэст.** Да Дня горада абласны цэнтр атрымаў у падарунак ад дзелавых колаў прыгожую алею з 28 розных "літаратурных" каваных ліхтароў і велапаркоўкі на 12 ровараў у кожнай.

**Барысаў.** Сям'я папрасіла 33-гадовага знаёмага адрамантаваць кватэру, аднак ён забіў гаспадыню, згвалтаваў яе 31-гадовую дачку і ўцёк з украдзенымі 9,6 мільёна рублёў.

# У Віцебскай вобласці кампенсацыйныя выплаты насельніцтву за канфіскаваных свіней складаюць каля Br4 млрд.



■ Алена Ціханава, БЕЛТА

**У Віцебскай вобласці кампенсацыйныя выплаты насельніцтву за канфіскаваных свіней складаюць каля Br4 млрд., паведаміў карэспандэнту БЕЛТА начальнік аддзела ветэрынарыі і ветэрынарнай дзяржаўнай інспекцыі камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню аблвыканкама Аляксандр Козак.**

«Па стане на 15 жніўня ў насельніцтва вобласці канфіскавана 2 тыс. 916 галоў свіней. Сума кампенсацыйных выплат складае Br3, 9 млрд., з якіх каля Br2, 4 млрд. насельніцтва ўжо атрымала. Тыя, што засталіся грошы будуць выплачаныя ў двухтыднёвы тэрмін », - растлумачыў Аляксандр Козак.

Паводле яго слоў, грошы выплачваюцца са сродкаў мясцовых выканкамаў. Скаргаў на несвоечасовыя разлікі ад насельніцтва не паступала. «Многія гаспадары пазбаўляліся ад свіней самастойна. Для асабістага ўжывання быў праведзены забой 9,9 тыс. галоў », - сказаў дзяржінспектар.

На сённяшні дзень на прыватных падворках ў неспрыяльных па АЧС раёнах вобласці налічваецца 2,8 тыс. свіней. Падлягае знішчэнню і тысяча жывёл, якія знаходзяцца ў пяцікіламетровай зоне свінагадоўчых комплексаў. «У асноўнай масе гэта нетаварнае пагалоўе: кнары, мацёры і парасяты. Закупачныя цэны на такіх жывёл вельмі нізкія і насельніцтву не выгадна іх прадаваць на мясакамбінаты. Зараз разглядаецца пытанне павышэння коштаў. Завяршыць працу па канфіскацыі свіней з прыватных падворкаў у неспрыяльных рэгіёнах і на тэрыторыях вакол свінагадоўчых комплексаў плануецца да 1 верасня », - сказаў дзяржінспектар.

Аляксандр Козак таксама падкрэсліў, што мерапрыемствы па біялагічнай абароне праводзяцца на ўсіх 22 свінагадоўчых комплексах вобласці. На пад'ездах да фермаў устаноўлены дадатковыя блакавальныя пасты, арганізаваны спецыяльныя пасты міліцэйскай і вартавой аховы. На працягу сутак праводзіцца двухразовая дэзінфекцыя ўсіх памяшканняў комплексаў, вядзецца ачыстка прылеглай тэрыторыі ад кустоў і пустазелля для ўладкавання дадатковых агародж на адлегласці 10-15 метраў ад асноўнага плота.

«Кармленне пагалоўя вырабляецца выключна грануляванымі камбікармамі. У працэсе грануляцыі корм падвяргаецца тэрмічнай апрацоўцы, што згубна для ўзбуджальніка АЧС і ў цэлым спрыяе аздараўленню пагалоўя », - дадаў дзяржінспектар.

Паралельна з гэтым у вобласці вядзецца адстрэл дзікоў. Ужо знішчана каля 4 тыс. асобін. У паляўнічых гаспадарках працуюць спецыялісты ветэрынарнай службы, якія кантралююць пытанні ўтылізацыі туш.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На тэрыторыі Рыжскага рынка ў новым магазіне сеткі беларускіх тавараў адкрыла сваю фірменную секцыю вядучая айчынная абутковая фірма "Марко".

**Верхнядзвінск.** У вёсцы Прудзінкі завяршылі ўзвядзенне сучаснай даільнай залы на 900 галоў, гэты аб'ект, другая па ліку МТФ, будзе здадзена ў эксплуатацыю ў верасні.

**Орша.** Дзякуючы смеласці механізатара ААТ "Маяк Высокае" ўдалося выратаваць палаючы камбайн у полі, у якім замкнула электраправодку ў маторным адсеку падчас жніва.

**Наваполацк.** Расійскі інвестар, радыёзавод з Іжэўска выдзеліў 5 млн. долараў інвестыцый для пачатку на мясцовым ААТ "Вымяральнік" зборкі электронікі для сваіх радыёстанцый.

**Лепель.** Ва ўрачыстай абстаноўцы мясцоваму 427-му рэактыўнаму артылерыйскаму палку ўручылі баявы сцяг камандуючы войскамі Паўночна-Заходняй групы генерал А. Раўкоў.

Полацк. У мясцовым дзяржуніверсітэце адбыўся рэкордны недабор студэнтаў на платнае дзённае аддзяленне, на 1750 месц для першакурснікаў быў толькі 381 жадаючы.

**Паставы.** Услед за новым сырзаводам у райцэнтры будаўнікі АБФ "Рассвет Пастаўскі" завяршылі ўзвядзенне новага медыцынскага блока для Дунілавіцкага дома-інтэрната.

**Сянно.** На працу ў школах раёна прыехалі працаваць з новага навучальнага года па размеркаванні больш 20 маладых настаўнікаў, усяго раён папоўніла да 100 спецыялістаў.

**Гарадок.** З цэнтральнай плошчы райцэнтра пасля рэканструкцыі да прадстаячых "Дажынак-2014" прыберуць помнік Леніна, яго паставяць ля дзіцячай школы мастацтваў.

**Навалукомль.** Ганаровымі гасцямі Дня горада сталі будаўнікі з Кітая, якія працуюць на рэканструкцыі мясцовай ГРЭС, кітайцы падрыхтавалі таксама свой канцэрт.

**Глыбокае.** Пасля ДТЗ ноччу на дарозе на Крулеўшчыну памерла ў бальніцы 19-гадовая дзяўчына, міліцыя затрымала 24-гадовага кіроўцу з райцэнтра, ён ехаў без правоў.

**Браслаў.** Падчас правядзення мытнага кантролю на пункце пропуску "Урбаны" ў вадзіцеля з Латвіі канфіскавалі паўпрычэп з тайнікамі і нелегальным грузам цыгарэт.

**Докшыцы.** З вальера паляўнічай гаспадаркі паблізу вёскі Камайск уцёк гурт з 30 дзікіх кабаноў, іх адлавілі толькі праз тыдзень, хутчэй усяго дзікі пойдуць пад нож з-за АЧС.

**Верхнядзвінск.** У шэрагу месц раёна правяла здымкі група папулярнай тэлепраграмы расійскага Першага канала "Жди меня", яна адшукала родных сясцёр праз 70 год.

**Полацк.** Група вядучых ігракоў пакінула ФК "Полацк", на клуб І-й лігі падаў у суд паўабаронца А. Кудраўцаў за даўгі па зарплаце, ледзь выжывае і ФК "Віцебск".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# “Голас з рэзервацыі” Люцыяна Шчаснага


Люцыян Шчасны



**Марыя Баравік,**
сябра СБП,
*г.п. Падсвілле.*

Думку паэта Януся Мальца я ўлаўліваю, прыкладна, так: “Чытаў-чытаў чарнавыя сшыткі вершатворцы. Аж гляджу – гэта ж паэт”. І сапраўды ў прадмове да зборніка “Голас з рэзервацыі” Люцыяна Шчаснага піша: “Паглыбляючыся ў чытанне, я ўсё больш і больш пераконваўся, што перада мной прыстойнае, не пазбаўленае таленту, арыгінальнае бачанне рэчаіснасці…”. І, значыць, выбраў, “прычасаў” суадносна са сваім густам…”. Янусь жа – гумарыст у сваёй творчасці. Зміцер Лупач звярстаў. І ў Глыбокім, у рэдакцыі рэкламнай газеты “Прэфект- інфо” выпусцілі кніжку Люцыяна. Тут жа прайшла прэзентацыя. Арганізаваў сустрэчу з аўтарам для суполкі ТБМ кіраўнік яе, той жа Зміцер.

Люцыян Шчасны зацікавіў прысутных сваёй асобай праз кнігу. Паэт-селянін, усяго толькі з базавай школай, вядзе аповед пра лёс, у які ўвесь час укручвалася думка пра нейкі недасягальны свет. Цяпер на сустрэчы паэт кажа, увесь час паўтарае, што трэба верыць у Бога. Цягу да слова ў Люцыяне заўважылі людзі, аднавяскоўцы і тыя руплілўцы аб гісторыі роднага краю, пра якіх кажа паэт Янусь Малец у прадмове да кніжкі “Голас з рэзервацыі”. Важна, што з усяго грэшнага наслаення Шчасны памкнуўся вызваліць душу мастацкай шчырасцю. Яна ў ім верхаводзіла. І, чытаючы Люцыянаву кніжку, думаю, што ён напэўна сказаў сабе цвёрда:

Плюнь на гарэлку, на цыгарэты!
Люцік з Хрыстова! Стань ты паэтам!
Бо нездарма ж яго
Іменем цёплым, кветкавым словам
Люцікам клічуць людзі Хрыстова.

У кнізе я спыню ўвагу на беларускіх вершах. Роднае слова гучыць і ўздзейнічае ямчэй. Яно выліваецца з душы народным напевам, вылятае іскрынкай гумару:

Вось дзянёчак ужо восьмы
Дымам не душуся.
І настрой такі харошы,
Хоць усім дай бусю.

Імгненнасць жыцця паэт ужо ўявіў.

Уздыхаю я нялёгка
Ад жыцця-агрызка:
Як да пенсіі далёка,
А да смерці блізка!

І пра тое зразумеў, як зямное пекла захоплівае ў палон.

Ці такая доля,
Ці то ад распусты
Меў я многа болю
І цярпеў пакуты.

І пра змаганне з сабой.

Перад самай дамавінай
З дапамогай Бога
Я курыць, напэўна, кіну.
І не п’ю ўжо доўга.

Сёння Люцыяна не заўважыш п’яным. Яго творчасць працінае цвярозая назіральная думка:

Чорная дарога,
Белыя аблокі.
Новага - нічога
У жыцці нялёгкім.

Тыя ж лістапады
На вадзе і сушы,
Той жа час няпраўды
Адурманіў душы.

Натура Люцыяна шукальная, неспакойная ад прыроды. Яна патрабуе споведзі. І, менавіта, у народна-гумарыстычным стылі. Яна пяе, уздыхае, іранізуе, жартуе. Практычна спазнаўшы жыццё, паэт мае ўнутранае запатрабаванне сказаць. І незвычайна. Найперш ад сябе і пра сябе. Таксама пра іншых. Усё, што думае. Адкрыта і разняволена. Часам, арыгінальна, знаходліва. Бывае, думка чарахне тоненькай бліскавіцай:

І пад тысячай ідэй
Ліхадзей хай згорбіцца.
А за Леніна жывей
Нізашто не зробіцца.

Намёкліва кажа:


Фота Анатоля Кляшчука

Люцыян Шчасны

Так багі наш свет зрабілі,
Што ад самай даўніны
Толькі, мусіць, у магіле
Пазбаўляешся маны.

Або гратэскна заключае:

…Не жыццё – жахлівы сон…
Колькі б нам збярог здароўя
Тэлек выкінуты вон!

Прысутнічае ў Шчасным і годнасна-самаацэначнае пачуццё, накшталт, “мы самі з вусамі”, якое выяўляецца з дыялогаў на прэзентацыі. Хоць між іншым і рукой махне на сваю творчасць. Тут жа згумарыць. І дасць самаацэнку, як у вершы

Напісаў бы оду пану
Ці царку якому,
І твой твор, хоць і паганы,
Стаў бы ўсім вядомы.

А калі ты славаблуддзем
Лечыш свае раны,
То заўсёды табе будзе
На зямі пагана.

І прагучыць яшчэ мацнейшы самадакор

Сяджу нярэдка і глытаю
Свае слязінкі ў роднай хаце,
Што я скажу, як запытае
Сам Бог, на што я талент траціў?

На заключным радку мне хочыцца працытаваць поўнасцю стройны верш:

У маім у сэрцы
Неяк нечакана
Светлыя надзеі
Сёння расцвілі.
І няма жадання
Свет клясці паганы
І ўсю тую нечысць,
Ёсць што на зямлі.

На кустах і дрэвах –
Снежныя карункі,
Белыя пярыны
На прасторах ніў.
І мяняе вецер
Часта накірункі,
Нібы ён дарогу
Некуды згубіў.

Трапны вобраз мастацкага афармлення думкі Люцыяна і на вокладцы. У выдадзенай радасць. Усё-ткі выйшла кніжка. Трэцяя. І ўжо зацікаўлены чытачы паэтам Люцікам, з Хрыстова Пастаўскага раёна.



■ Уладзімір Скрабатун

# Археолагі знайшлі артэфакт, паходжанне якога і прызначэнне – не магчыма вытлумачыць

Археолагі, а дакладней – група валанцёраў з Глыбокага і прафесійны археолаг з Мінска на тэрыторыі Плiскага сельсавета праводзілі пробныя раскопкі, гэта значыць закладалі ў розных месцах шурфы на колішнім старажытным паселішчы.

Даследаванне сталася выніковым. Вельмі шмат артэфактаў розных эпох, памеры паслелішча – унушальныя. Знаходкі паказвалі – людзі жылі тут у часы неаліту, г. зн 5-3 тысячы гадоў таму, аб чым сведчаць знаходкі крэменю, жылі і ў бронзавы век – 2-е тысячагоддзе да н.э - пачатак 1-га н.э – калі пачала развівацца металургія.

Першымі пасяленцамі тут былі балты, аб чым сведчаць рэшткі керамікі і характэрныя бутэлепадобныя формы. Балты не ведалі ганчарнага кола – рэшткі керамічнага посуду паказваюць, што вылепленыя яны ўручную, усярэдзіне дададзены перапалены камень.

Знойдзены і рэшткі славянскай печкі каменкі, г.зн – пасля балтаў тут жылі славяне. Трэба сказаць, што славяне былі больш прагрэсіўныя – печка каменка доўга трымае цяпло, што вельмі актуальна для ацяплення жылога памяшкання і ўтрымання ў ім цяпла. А вось балты выраблялі глінабітныя печы. Глінабітныя печы хутка астывалі. Дзе славяне гэтаму навучыліся? Магчыма, на Балканах, а потым славяне, якія мігравалі сюды, прынеслі з сабой такую тэхналогію ўстройства печак.


Артэфакт з розных ракурсаў.

Была нечаканая знаходка ў слаях бронзавага веку (гл. здымкі)... Што гэта? Свідар? Дэталь нейкага прыстасавання? А можа тут некалі разбілася «лятаючая талерка»? – жарт, зразумела.

«Стрыжань» у гэтага артэфакта – правільны шасцівугольнік, па баках «лопасці» таксама правільнай трохкутнай формы – са скосамі, нібы заточаныя на станку. Матэрыял, з якога выраблены гэты артэфакт, – невядомы (у нас ён не сустракаецца). Магчыма, базальт, але гэта будзе высветлена ў Мінску.

Цікава, якім спосабам старажытныя людзі апрацоўвалі гэты матэрыял, які не паддаецца ручной апрацоўцы? У сённяшніх умовах такі трывалы матэрыял могуць апрацаваць толькі высокатэхналагічныя шліфавальныя станкі.

Дэталь выробленая тут? Альбо прывезеная сюды старажытнымі караванамі?

Праўдападобна, гэта толькі невялікая частка нейкай большай дэталі, бо бачны яўны надлом. Маглі, зразумела, паламаць і плугі калгаснай сельскагаспадарчай тэхнікі і ў нашыя дні.

У Мінску будуць зробленыя пэўныя высновы з тых артэфактаў, якія былі знойдзеныя. На восень плануюцца ізноў, але ўжо больш маштабныя археалагічныя раскопкі. Натуральна, дапамагаць будуць, як і раней, глыбоцкія валанцёры.



■ **Кліменцій Кожан**, краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні. *м. Германавічы.*

# Помніку князю Альгерду – быць

**Працяг.**

*Пачатак ў №№32,33, 34 за 2013 г.*

4. “Злодей России”.

Аб якой жа “России” эпохі Альгерда гавораць аўтары ліста? Вялікае Княства

Маскоўскае ў той час – ніякая не “Россия”, а бяспраўны ўлус Арды. Маскоўскія князі не валодалі ні адным атрыбутам дзяржаўнасці. Для дазволу на кіраванне княства яны павінны былі цалаваць боты цароў Арды і атрымліваць ярлык, яны не мелі права на самастойную знешнюю палітыку, абавязаны былі выстаўляць свае маскоўскае войска як частку войска Арды на ўсе ардынскія войны і г.д. На манетах, якія чаканіў у Маскве Дзмітрый, напісана: “Царь Тохтамыш, да продлятся его дни”.

У чым жа заключалася сапраўдная “віна” Альгерда? Альгерд ненавісны для маскавітаў выключна тым, што якраз ён быў у сваю эпоху ПРАВІЦЕЛЕМ РАСІІ. Ён “сабраў” практычна ўсе тэрыторыі былой Кіеўскай Русі, а яго тытул Вялікі князь Рускі быў вышэй тытулаў тыпу “Вялікі князь Цвярскі” ці “Вялікі князь Маскоўскі”.

За гады свайго праўлення пад яго кіраванне ці ўплыў папалі, апрача зямель цяперашніх Беларусі і Украіны, яшчэ ўсе асноўныя так называемыя “рускія землі” цяперашняй Расіі: Вялікае княства Цвярское, Пскоўская і Наўгародская Рэспублікі і, нарэшце, само Вялікае княства Маскоўскае.

Чаму два сыны гэтага “злодея России” і “агрессора” – Андрэй Полацкі і Дзмітрый Бранскі, яго спутнікі і памочнікі ў ваенных паходах, прывялі на Кулікоўскую бітву харугвы ВКЛ, камандавалі гэтай бітвай і разграмілі Мамая?

У гэты час Масква была часткай ВКЛ: у 1373 годзе (за 7 гадоў да Кулікоўскай бітвы) Альгерд бяскроўна захапіў Маскву ў склад ВКЛ, усадзіў у крамлёўскую сцяну свае кап’ё – як знак вечнай прыналежнасці Масквы да ВКЛ, а таксама падарыў масквічам пасхальнае яйцо, як сімвал адзінства і брацтва.

Вось за што такая лютая і, здаецца, невытлумачальная нянавісць да Альгерда. Ён не толькі з’яўляўся галоўным збіральнікам Русі і канкурэнтам Масквы на гэтай ніве, але яшчэ сабраў і саму Маскву, прычым бяскроўна. Калі Альгерд памёр, Масква была ў складзе ВКЛ.

У аўтараў ліста Альгерд “агрессор”, таму што, скарыстаўшы разброд у Ардзе, уключыў у склад Адзінай Русі і Маскоўскае княства. Аднак, згодна Тэзісам ЦК КПСС 1954 года, цэнтрам “собирания русских земель” трэба лічыць толькі Вялікае Княства Маскоўскае, а не ВКЛ, якое, згодна з Тэзісамі, трэба бачыць не альтэрнатыўным цэнтрам “собирания Руси”, а толькі “агрессором”.

Але “агрэсарам”супраць каго? Тое, што ВКЛ “русского” “собирало”, не мела самастойнасці, а звывала ад татара-мангольскага іга Арды. З боку ВКЛ ішло якраз ВЫЗВАЛЕННЕ ад гэтага іга. Да таго ж, у Альгерда быў тытул Вялікага князя Рускага, гэта значыць, ён меў поўнае права “собирать Русь”. Гэтага тытулу не было ні ў маскоўскіх князёў, ні ў цароў Арды, якія імі правілі.

Масква была для Арды зборшчыкам даніны з Русі, на чым і ўзвысілася. Такім чынам, Альгерд – “агрэсар супраць Арды” і вызваліцель Русі ад іга Арды.

Усё гэта паказвае, што аўтары ліста, прыкрываючыся размовамі пра “дружбу народаў”, на самай справе хочуць аспрэчыць наша месца ў гісторыі як альтэрнатыўнага Маскве цэнтра збірання Русі. Альгерд першым стварыў “саюзную дзяржаву Мінска і Масквы” (няхай на дзесяцігоддзе, а потым Масква зноў збегла ў сваю Арду). І ў час Кулікоўскай бітвы маскавіты былі “малодшым братам” літвінаў-беларусаў. Зараз у рускіх ідэолагаў іншыя ўяўленні – гэта беларусы з’яўляюцца іх малодшым братам. Адсюль нянавісць да Альгерда і жаданне ахаваць беларусаў ад памяці пра тую эпоху, калі мы правілі Масквой, а не яна правіла намі.

Далей Арцём Дзянікін падводзіць вынікі. Так называемыя “русские национальные чувства”, якія бышцам бы “задевает” помнік Альгерду ў Віцебску, аказваюцца на праверку ніякімі не рускімі, а толькі маскоўскімі, в я л і к а д з я р ж а ў н ы м і. “Пачуцці” метраполіі закранаюць, што яна калісьці сама была калоніяй сваёй потым калоніі. Выпадак у гісторыі рэдкі , але не ўнікальны.



**У 1367 г., каб засцерагчыся ад набегаў Альгерда, пачалося будаўніцтва каменных сценаў Маскоўскага Крамля.** *Старадаўняя мініяцюра.*

Спецыяльны раздзел артыкула адказвае на пытанне, хто быў сапраўдным злодзеем Русі. Сапраўдным і адзіным злодзеем Русі з’яўлялася ў той час Масква – бязлітасны ардынскі наглядчык. У кнізе вядомага маскоўскага гісторыка Аляксея Бычкова “Масковія” (М., 2005) ёсць такія радкі (с.149):

“Масква, якая ўваходзіла ва Уладзімірска-Суздальскі ўлус (“белае ханства”), была ўзвышана богдыханам за асаблівыя заслугі маскоўскіх князёў у справе масавага знішчэння рускіх людзей, якія паўставалі супраць іга манголаў. Князь збіваў не толькі жыхароў другіх удзельных княстваў, напрыклад, Цвярскога, але і свайго ўласнага. Ханскі ярлык быў платай за генацыд рускага народа, і менавіта таму ў маскоўскай улады ў перыяд станаўлення яе ўласнай дзяржаўнасці сфарміраваўся і замацаваўся на вякі і да цяперашняга часу архетып жорсткіх, не сямейных, а каланіяльных адносін да свайго народа: тысячамі, мільёнамі рускіх людзей можна лёгка ахвяраваць дзеля сляпога падпарадкавання, дзеля ўтапічнай ідэі ці проста самадзяржаўнага капрыза”.

А вось што піша Эрэнжэн Хара-Даван у кнізе “Чынгісхан як палкаводзец і яго спадчына”, (”Чингис-хан как полководец и его наследие”, Элиста, 1991): “До приходов монголов многочисленные русские княжества … фактически не составляли одного государства, а к населявших их племенам славянского происхождения было неприменимо название единого русского народа. Влиянием монгольского владычества эти княжества и племена были слиты воедино, образовав сначала Московское царство, а впоследствии Российскую империю.

Монголы … не могли допустить обилия мелких владетелей, живущих за счёт народа и хаоса , их нескончаемых распрей, подрывавших экономическое благосостояние подданых и лишавших страну безопасности сообщений, а потому, естественно, поощряли образование сильной власти московского великого князя, которая могла бы держать в повиновении и постепенно поглащать удельные княжества. Этот принцип создания единовластия казался им для данного случая более целесообразным, чем хорошо известное и проверенное временем китайское правило: “Разделяй и властвуй”. Таким абразом, монголы приступили к “собиранию” Руси (подобно своему государству) ради водворения в стране порядка, законности и благосостояния. В результате … они дали покорённой стране основные элементы будущей московской государственности: самодержавие (ханат), централизм, крепостничество”.

У кнізе Аляксея Бычкова (с. 151) чытаем: “Монгольское завоевание способствовало превращению Руси городской и вечевой в Россию сельскую и княжескую. Монгольское владычество помогло северному князю – слуге ханскому – сделаться полновластным хозяином своего удела – Московского улуса.

Местный князь был подчинен во всём удельному хану, а последний – Великому богдыхану. Конечно, из местных ставился во главе более лояльный; таковыми как раз оказались московские князья, начиная с Ивана Калиты… Хан поручил Калите наказать тверского князя за восстание, что и было исполнено и за что Калита и получил в 1328 году великокняжеский престол».

Зноў аўтар артыкула робіць вывады. Такім чынам, вось галоўнае ў пытанні аб Альгердзе: ён, будучы па маці рускім і Рурыкавічам, па тытулу – Вялікім Князем Рускім, абараняў Русь ад Арды і яе фарпоста Масквы. А Масква была злодзеем Русі – займалася генацыдам над рускімі , збірала для татар даніну і ўвасабляла сабой татарскае іга.

Альгерд не меў бы ніякай павагі, калі б вёў сябе як маскоўскія князі —халуі татар. Але ён не здаўся немцам і неператварыў Віцебск у фарпост нямецкай экспансіі на Усход, як масквічы зрабілі Маскву фарпостам татарскай экспансіі на Захад. У тую эпоху Маскву і “Руссю” не лічылі з-за гэтага, русіны і маскавіты тады – розныя народы. Масква потым так і не кінула сваю Арду, а захапіла ў Ардзе ўладу – і зноў пры Іване Жахлівым пайшла захопліваць Русь разам з татарамі. Менавіта тады, пры знішчэнні Ноўгарада і Пскова маскова-татарскімі войскамі і ўзнікла легенда аб градзе Кіцежы, які пайшоў пад ваду і вернецца да света, калі маскова-татары пакінуць Русь.



**Прачысценскі сабор – Сабор Успення Багародзіцы ў Вільні, заснаваны вялікім князем Альгердам у 1346 годзе.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Альгерд – безумоўны герой і абаронца Русі, і помнікі яму павінны стаяць у Пскове, Цверы і, канечне, у Кіеве. Для ўкраінцаў такі помнік – выражэнне падзякі беларускаму народу за вызваленне ад ардынскага іга.

І апошняе. Галоўны “аргумент” аўтараў ліста: “Ольгерд не имеет отношения к белорусскому народу” (далей па сэнсе – таму што ваяваў з маскоўскімі халуямі Арды і перашкаджаў Ардзе-Масковіі нас захапіць). Але чаму аўтары ліста (8 чалавек) гавораць ад імя ўсяго народа Беларусі? Прычым свае адносіны да Альгерда нашы продкі выказалі, жывучы пад яго ўладай : ні разу ні ў чым на вялікага князя не пакрыўдзіліся , а любілі яго і бясконца паважалі. Гісторыя не ведае ні аднаго бунта літвінаў-беларусаў супраць яго, ні аднаго канфлікта Альгерда з насельніцтвам. Што наогул даволі рэдка для тых часоў. І ёсць з чым параўноўваць: у Полацку тры гады правіў сын Альгерда Скіргайла (1352-1394), ён жа Іван, князь Трокскі і Полацкі. Але жыхарам ён не спадабаўся. У 1381 годзе палачане схапілі князя, прывязалі задам наперад да старой клячы і пад улюлюканне выгналі за гарадскія вароты. У Прыдзвінні да пачатку ХХ стагоддзя можна было пачуць прымаўку “Паехаў як Скіргайла з Полацка”.

А Альгердам нашы продкі ганарыліся. Аб гэтым сказана ў летапісах, і расійскія гісторыкі XIX ст. пішуць аб ім, падкрэсліваючы яго аўтарытэт, заваяваны ў народа асабістымі якасцямі.

У заключэнне Арцём Дзянікін піша: “Такім чынам, Альгерд не проста меў адносіны да нашага народа, але быў ім любімы. Але, трэба думаць, аўтары ліста гавораць не аб ТЫМ нашым народзе, а аб ЦЯПЕРАШНІМ, у якога ўяўленні павінны быць новымі і павінны адпавядаць Тэзісам ЦК КПСС 1950-1960-х гадоў, згодна якім “ВКЛ не имеет никакого отношения к истории белорусского народа”. Дык вось гэта ўказанне маскоўскіх ідэолагаў ЦК КПСС сапраўды не мае ніякіх адносін ні да Беларусі, ні да нашага народа, ні да нашай гісторыі.

У маскоўскіх летапісах напісана: “Столькі зла, як ад Альгерда, Масква нават ад татар бязбожных не зведала”.

Але трэба правільна раскладваць у кучкі мухі і катлеты, як гаварыў Уладзімір Пуцін. Масква ў кучцы з Ардой. А Русь – у кучцы з Вялікім Князем Рускім Альгердам, з Вялікім княствам Цвярскім, Наўгародскай і Пскоўскай рэспублікамі і з вызваленым ім ад ардынскага іга Кіевам.

*Заканчэнне будзе.*

## Віншаванкі

*Ульянку Самсонаву*

**Віншуем з нагоды Дня народзін**

Пожеланий будет три:
С радостью вокруг смотри!
Всем дари весёлый смех!
Будь всегда счастливей всех!

Тебе сегодня три, родная,
Будь такая, как всегда:
Весёлая, счастливая, шальная -
И все дороги для тебя.



*Дзед Яўген і ўсе твае родныя і сябры*

## Аксана Лашкевіч:

# Свінаматка плакала, цяклі слёзы, калі забівалі яе дзяцей

***Жыхарам вёсак Хралы, Івесь, Шо і Завулак загадалі выразаць усіх свіней. Яны выразалі...***

■ **Уладзімір Скрабатун**

### Хралы ўжо не тыя!

Вёска Хралы, каб не дарожныя ўказальнікі, здавалася б, працягам вёскі Івесь. Дзве вёскі – адна суцэльная вуліца. Між тым, яшчэ гадоў 15 таму, вёска Хралы выглядала вельмі архаічнай: ледзьве не кожная сялянская сядзіба ўяўляла сабой замкнёны блок: з хаты, хлявоў, пуні і плоту з уваходнай брамай, усярэдзіне – унутраны дворык. На сценах хлявоў віселі рэзгіні, хамуты, драўляныя граблі, косы... Скансэн!!! Скансэнам жа клічуць любы музей пад адкрытым небам.

Скансэн знік разам з яго носьбітамі, якія зышлі ў лепшы свет... Цяпер тут жывуць іншыя людзі. На шыльдах напісана – «вуліца Дачная». Металадахоўка замест шыфера, драўляныя платы заменены на глухія бляшаныя... Спадарожнікавыя антэны, дарагія іншамаркі на вуліцы! Усюды – малая ці вялікая будоўля. Агулам кажучы – Хралы акупавалі палачане і навапалачане.

Чаму? Ды ўсё проста! У паўтара кіламетра – Галубіцкая пушча: грыбы і ягады, а побач азёры: Белае, Доўгае, Шо, Псуеўскае, ды й вуды можна закінуць і ў самых Хралах – у возера Івесь.

Некаторыя, як колішняя навапалачанка Аксана Лашкевіч, прыехала сюды на сталае жыхарства: пабудавала вальеры для в'етнамскіх свіней, паставіла клеткі для трусоў, завяла коз і авечак, пачала рэканструяваць колішнюю сялянскую хату пад сучасны дом, пасадзіла экзатычныя дрэвы, як напрыклад бэз персідскі, які квітнее два разы на год, а лісце ў яго – памерам з ліст сланечніка!

### Бяда прыйшла нечакана

Ёсць такое журналісцкае выказванне – «Допіс паклікаў у дарогу». У нашым выпадку – тэлефанаванне. Тэлефанавала Аксана Лашкевіч: ***«Сёння ў суботу, 24 жніўня, да 22-х гадзінаў, уся вёска Хралы мусіць выразаць свінное пагалоўе! Бо, нібыта, каля вёскі Гразі, у нейкіх паўтара кіламетра ад Хралоў, паляўнічыя забілі дзіка. Ветслужба выявіла, што дзік быў хворы на афрыканскую чуму. З гэтай нагоды нам і загадана – правесці ўбой свінога пагалоўя. Аднак, ніякіх папераў на рукі мы не атрымалі. Толькі вусны загад чыноўнікаў».***



**Аксана Лашкевіч: Каго забівалі? Вось такіх маленькіх 3-х месячных парасят, якіх з дзясятак улезе ў адзін халадзільнік!** *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*

Назаўтра мы паехалі... Завіталі па дарозе да спадарыні Аксаны яшчэ да аднаго знаёмага ў Хралах сп. В. Жаваранка. Пазванілі ў дзверы. Але ніхто не адказаў і не выйшаў. У двары ўсё яшчэ стаяць вялікія чаны, каструлі, газавы балон... Сабака пасля пагалоўшчыны – не звяртае на нас ўвагі, не брэша, толькі спіць. Відаць, і гаспадары спяць, хоць ужо поўдзень, усё ж завалілі трох сваіх кабаноў, а гэта – вялікая праца па разробліванні тушаў, якая скончылася далёка за поўнач.

### Калі забівалі парасят – іх мама плакала

***– В'етнамскіе свінні, асабліва свінаматкі – вельмі адказныя мамы,– кажа Аксана Лашкевіч. – Быў напад трох паляўнічых сабак на малых парасят – іх было 15 – і дзве в'етнамскія свінаматкі сталі наперадзе сваіх парасят, не падпускалі сабак, былі параненыя, стаялі ў крыві.. Сабакі былі вымушаныя зыйсці.***

***Учора мы мусілі лавіць 3-месячных парасят на ўбой, а іх мама перашкаджала нам гэта рабіць. Яна знаходзілася ў стрэсавым стане, з яе вачэй цяклі слёзы. Уся морда была мокрая ад слёзаў. У «в'етнамак» яшчэ больш, чым у чалавека, развітые слёзныя залозы.***

### Падтрымліваю дзеянні ўладаў у барацьбе з АЧС

***– Я не супраць дзеянняў уладаў у барацьбе за эканамічную бяспеку нашай краіны,–*** працягвае Аксана Лашкевіч,***– я супраць самаўпраўства чыноўнікаў на месцах!***

І, сапраўды, як тут не пагадзіцца са спадарыняй Аксанай. Забілі, напрыклад, паляўнічыя дзіка, а ў яго – АЧС (афрыканская чума свіней). Дайце людзям – «паперу» на рукі і пад роспіс. Паведамце ў ёй прычыну пагалоўнага ўбою свіней. Так, маўляў і так: «У ваколіцах вашага населенага пункту, пры адстрэле дзікоў выяўленая АЧС. Тэрмінова правесці ўбой свінога пагалоўя. Подпісы: галоўны ветурач, ветурачы, старшыня с/Савета.., пячатка і гд».

Няма «паперы»? Вось таму шмат хто з сялянаў і лічыць гэта самаўпраўствам. Можа чыноўнікі проста перастрахоўваюцца? А чумы ў нашым краі яшчэ няма?

PS.: Пры заканчэнні вёрсткі гэтага нумару стала вядома – дыягназ на АЧС не спраўдзіўся. Хралы – у шоку!

***– Жыхары з вёсак Ушацкага раёна, якія праз пару кіламетраў адсюль,–*** па словах адной жыхаркі вёскі Івесь,***– з нас смяюцца: «Так вам, дурні, і трэба -- навошта рэзалі без «папераў»!***

---

■ **Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

# Не рыба плёскаецца ў сажалках, гэта – браканьеры!

Набліжаецца восень, дні становяцца ўсё карацей, а ночы даўжэй, з палёў ужо амаль прыбраны ўраджай, настае пара рыбалоўнай пуціны ў ААТ «Рыбгас Навінкі». Працаўнікі рыбгаса спускаюць ваду з сажалак, каб пачаць іх аблоў, убачыць плён сваёй працы, атрымаць годны ўраджай рыбы і заработную плату.

На жаль, усё яшчэ знаходзяцца людзі, якія карыстаюцца пладамі чужой працы. Штогод з набліжэннем восені супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету затрымоўваюць дзясяткі грамадзян, якія здзяйсняюць крадзяжы рыбы з сажалак рыбгаса. За мінулы тыдзень інспектарамі міжрайінспекцыі на сажалках затрымана 4 грамадзян, якія выкралі ў агульнай масе больш за 30 кг. сажалкавай рыбы. Так, у ноч з 21 на 22 жніўня 2013 года супрацоўнікамі міжрайінспекцыі праводзіліся мерапрыемствы па спыненні правапарушэнняў у прыродаахоўнай сферы на тэрыторыі Пастаўскага раёна. Рэйдавая група знаходзілася паблізу сажалак рыбгаса, інспектараў прыцягнула аўтамашына, якая самотна стаяла, схаваная ў кустах, хоць да тэрыторыі рыбгаса было далёка, але дасведчаныя інспектары беспамылкова вызначылі, што машына схавана ў кустах не проста так. Вось ужо амаль 1 гадзіна ночы і з цэмры выйшлі два чалавекі, якія ішлі праз лес з сажалак з мяшкамі за плячамі. Вокрык інспектараў у цемры: **«Стаяць – інспекцыя!»** – прывёў парушальнікаў у здранцвенне, ні як не чакалі двое жыхароў г. Глыбокае, што іх затрымаюць. Зараз парушальнікам прыйдзецца адказваць за крадзеж 10 кг карпа сажалкавага ў судзе і пакрыць прычыненую шкоду рыбгасу.

У гэты ж дзень 22 жніўня каля 22 гадзін ночы інспектары зноў вярнуліся на сажалкі рыбгаса, на першы погляд усё спакойна, рыба плёскаецца ў сажалках, чутныя галасы птушак, але досвед падказвае – неабходна быць вельмі ўважлівымі, штосьці не так. І вось два сілуэты ўночы адыходзяць ад сажалкі ў бок лесу, які павінен стаць выратавальным для браканьераў, але вось – няўдача, інспектары пераступілі дарогу парушальнікам. Ізноў два жыхары хвалебнага горада Глыбокае затрыманы за крадзеж сажалкавага карпа – і ім таксама прыйдзецца адказваць перад законам за парушэнне й пакрыць шкоду рыбгасу за вылаўленыя 20 кг. карпа.

Вось такі сумны вынік няўдачлівых рыбаловаў – пустыя штраф і пакрыццё ўрону! Спадзяемся, гэта паслужыць добрым урокам парушальнікам. На чужы каравай, рот не разяўляй!

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-28670 «кругласутачна», маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

---



## Віншаванкі

*Надзею Анатольеўну Шапавал*

**Віншуем з юбілеем!**

**Шчыра жадаем табе здароўя, шчасця, дабра і ўзаемаразумення ў сям'і, міра і дабрабыту.**

Спасибо, родная, что есть ты у нас,
Что видим и слышим тебя каждый час,
За добрую душу и тёплое слово,
За то, что не видели в жизни плохого.
Спасибо тебе, наш родной человек!
Желаем здоровья на долгий твой век!

*Твае родныя.*

---

## МНС інфармуе
**на 27.08.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 702;
Гібель людзей – 90, з іх 1 дзіця;
Урон – 2798,893 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў –36;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 303.4 млн. руб.

---

# «Уключыце блізкае святло фар! Увага –дзеці!»

■ **І.У. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

У рамках правядзення месячніка па падрыхтоўцы да Дня ведаў, прафілактыцы і папярэджанні дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму з **26 жніўня па 6 верасня** ў Рэспубліцы праводзіцца адмысловы комплекс мерапрыемстваў «Увага – дзеці!», мэта якіх – папярэджанне траўматызму і смяротнасці ў выніку дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам і па віне дзяцей.

Менавіта ў перыяд вакацый на дарогах адбываецца асноўная маса аварый з удзелам дзяцей. Прычыны ДТЗ у кожным пэўным выпадку розныя, але калі гіне дзіця – разважаць пра прычыны непапраўна цяжка. Трагічна скончылася ДТЗ у Шаркоўшчынскім раёне ў ліпені. Пры пераходзе дарогі на масце бабуля і 4-х гадовая ўнучка патрапілі пад колы іншамаркі. У выніку аварыі дзіця ад атрыманых траўмаў памерла.

Праз месяц у Лепельскім раёне кіроўца аўтамабіля «Кіа» здзейсніў наезд на няпоўнагадовага веласіпедыста, які выехаў раптам на праезную частку дарогі. Ад атрыманых траўмаў 9-ці гадовы хлопчык памёр на месцы здарэння.

17 жніўня па віне 27-гадовага кіроўцы, які пазбаўлены кіроўчых правоў за ўпраўленне транспартам у нецвярозым стане, у Аршанскім раёне загінуў 15-ці гадовы навучэнец адной з аршанскіх школ. Кіроўца аўтамабіля «Нісан», які рухаўся пад раніцу па аўтадарозе Орша-Пішчалава, страціў кіраванне аўтамабілем, з'ехаў у кювет і ўрэзаўся ў слуп. Кіроўца і трое пасажыраў іншамаркі атрымалі траўмы, двое з якіх загінулі, у тым ліку і падлетак.

Паважаныя дарослыя! Памятайце, што вы ў адказе за сваіх дзяцей. Не забывайце нагадваць дзецям і падлеткам правілы бяспекі паводзін на вуліцах і дарогах. Будзьце самі годным прыкладам, і сумеснымі высілкамі мы навучым дзяцей правільна арыентавацца на дарозе, захаваем ім здароўе і жыццё.

Дзяржаўтаінспекцыя заклікае ўсіх прыняць самы актыўны ўдзел у правядзенні месячніка, тым самым не дапусціць гібелі і траўміравання нашых маленькіх грамадзян.

**Паважаныя кіроўцы!** Нагадваем, што ў адпаведнасці з п. 166 і 166.9 Правіл дарожнага руху ў светлы час сутак для пазначэння рухомага транспартнага сродку павінны быць уключаныя блізкае святло фар ці дзённыя хадавыя агні ў перыяд правядзення Міністэрствам унутраных спраў рэспубліканскіх адмысловых комплексных мерапрыемстваў па забеспячэнні бяспекі дарожнага руху.

